ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 41 (2443) 26 кастрычніка 1995 г.
Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

КАМПЕТЭНТНАЕ МЕРКАВАННЕ

## Я СЁННЯ ГАСПАДАР

**Вадзім ЛОЙКА -- дырэктар сельскагаспадарчага прадпрыемства ўжо больш за два дзесяткі год: як гаворыцца, з'еў на гэтай справе зубы. Гаспадарка, якой ён кіруе, эксперыментальная база ў Уздзенскім раёне, не калгас, па статусу -- дзяржаўнае прадпрыемства, але на справе калгас і саўгас мала чым адзін ад аднаго адрозніваюцца: тыя ж клопаты -- як пасадзіць, вырасціць, убраць ураджай, выгадаваць жывёлу, аднолькавыя і праблемы -- непарытэт цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю, дарагоўля энерганосьбітаў, угнаенняў, несвоечасовы разлік за сельгаспрадукцыю з боку дзяржавы і асобных прадпрыемстваў. А таму ўсё , пра што разважае Вадзім Лойка, тычыцца не толькі яго як дырэктара канкрэтнага саўгаса.**

*-- Вадзім Вікенцьевіч, мяркую, для вас не навіна, што старшынь калгасаў, дырэктараў саўгасаў нярэдка называюць і, не ад самых добрых пачуццяў, "чырвонымі памешчыкамі". Чаму "чырвонымі" -- зразумела: калектыўныя сельскія гаспадаркі ў такім выглядзе былі "народжаны" бальшавікамі, камуністамі -- "чырвонымі". Але чаму памешчыкамі? Ёсць падставы? А, можа, усё гэта чыстай вады нагавор?*

-- Ну, не ведаю, памешчыкі мы ці не, але ж і не парабкі. Старшыня калгаса, дырэктар саўгаса -- кіраўнік, рэальная ўлада ў гаспадарцы, і з гэтым лічацца. Увогуле, мне здаецца ў жыцці, ураўнілаўкі і не павінна быць. Кожны чалавек мае свае асаблівасці, нейкія адметныя якасці і рысы. Мы ўсе розныя, па-рознаму жывем, працуем, і адносіны да нас будуць таксама розныя, і праца кожнага з нас павінна ўзнагароджвацца ў адпаведнасці з яе складанасцю і інтэнсіўнасцю. Іншая справа, што наша жыццё мусіць быць так арганізавана, каб у ім не было бедных і абяздоленых. Але ў кожнай справе павінен быць кіраўнік, толькі тады атрымаецца нейкі толк.

І кожнаму кіраўніку патрэбна, каб людзі яго, проста кажучы, слухаліся. Тады будзе парадку болей і ўнутры калектыву. Ну а наконт мянушак, дык нас як толькі не называюць, не ў гэтым справа... Я не крыўджуся.

*-- Карацей, няхай завуць хоць і кацялком, абы ў п... саджалі...*

*І ўсё ж такі за ...шнія перабудовачныя гады ў адносінах падначаленых і кіраўнікоў нешта мабыць змянілася? Можа той жа павагі паболела? Ці паменела... аўтарытэты сёння, вой, як пада...*

(Заканчэнне на 3-й стар.).



Выдатна, калі сельскагаспадарчую восень можна назваць шчодрай. Сёлетняя -- не горшая: урадзіла збажына і бульба, хапае гародніны, а вось пра яблыкі не скажаш, што багата ўрадзілі. Тым больш прыемна, што ў садзе "Дружба" саўгаса "Рассвет" Брэсцкага раёна добры ўраджай яблык. Тут сабрана іх паўтары тысячы тон розных гатункаў: "Спартак", "Макспур", "Беларуская малінаўка".

НА ЗДЫМКУ: збор яблык у саўгасным садзе.

Фота Рамана КАБЯКА.

## ЗНОЙДЗЕНА Ў ПРАЗЕ



**"...Хочацца ўнесці свой ...д, хоць і невялікі, але ўсё ж значны. Я рада, што маю магчымасць паве...іць вам аб цікавай знаходцы, якая датычыцца слыннага ўраджэнца Полацка Скарыны і ўплыву апошняга ў Заходняй Украіне, дзе перапісваліся яго друкаваныя выданні".**

**Гэтыя радкі з ліста Францішкі Сокалавай, навуковай супрацоўніцы Славянскай бібліятэкі пры Нацыянальнай бібліятэцы Чэшскай Рэспублікі, дасланага на імя прафесара Ад... Мальдзіса ў Скарынаўскі цэнтр.**

*У чым сутнасць знаходкі, вы зразумееце з артыкула "Рукапісны спіс скарынаўскага Апостала", змешчанага на 6-й стар.*

**НА ЗДЫМКУ: адна са старонак рукапіснай копіі з Апостала.**

*ДА 50-годдзя ААН*

## У ІМЯ МІРУ

24 кастрычніка міжнародная грамадскасць адзначыла 50-годдзе стварэння Арганізацыі Аб'яднаных Нацый -- важнейшага інстытута садружнасці дзяржаў, што выконвае вялікую ролю ў жыццядзейнасці сусветнай супольнасці. Адной з 50 дзяржаў -- сузаснавальнікаў ААН была і Рэспубліка Беларусь, якая атрымала гэты статус у знак прызнання яе заслуг у разгроме фашысцкай Германіі ў другой сусветнай вайне.

Сёння членамі ААН з'яўляюцца 184 дзяржавы свету. З моманту свайго існавання адной з галоўных мэт гэтай уплывовай арганізацыі з'яўляецца недапушчэнне трэцяй сусветнай вайны. Варта падкрэсліць, што пяцідзесяцігадовая дзейнасць ААН поўнасцю апраўдала ўскладзеную на яе адказную місію: трэцяя сусветная вайна не адбылася, прадухілены многія лакальныя войны і канфлікты. Важны ўклад унесла ААН у справу раззбраення і скарачэння ядзернай зброі, разрадкі міжнароднай напружанасці і захавання міру, у барацьбе за незалежнасць краін і забеспячэнне правоў чалавека, супраць апартэіду. Неацэнная дапамога бедным і пацярпеўшым ад стыхійных бедстваў і катастроф, бежанцам і г.д.

Актыўны ўдзел у дзейнасці Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і яе структур прымае Рэспубліка Беларусь асабліва з моманту набыцця ёю сваёй незалежнасці. Як у рамках ААН, так і на ўзроўні міжнародных і двухбаковых пагадненняў Беларусь робіць актыўныя намаганні па вырашэнню праблем раззбраення, умацаванню міжнароднага міру і нацыянальнай бяспекі. Наша краіна адной з першых аб'явіла сябе бяз'ядзернай дзяржавай. К канцу красавіка 1992 года дабілася вывазу за межы сваёй тэрыторыі тактычнай ядзернай зброі і вызначыла графік датэрмiновага вывазу з Беларусі стратэгічных ядзерных узбраенняў. Акрамя таго рэспубліка ініцыіравала ці падтрымала шэраг іншых міжнародных пагадненняў, накіраваных на выключэнне ядзернай зброі з жыцця чалавецтва. Многае зроблена па выкананню міжнародных дагавораў па скарачэнню звычайных узбраенняў. Такім чынам, наша краіна, якая панесла непапраўныя страты ў гады другой сусветнай вайны і зведала ў поўным аб'ёме вынікі чарнобыльскай катастрофы, стала прыкладам для дзяржаў -- членаў ААН па ядзернаму раззбраенню. Гэтая пазіцыя з'яўляецца фундаментам знешнепалітычнай канцэпцыі нашай маладой дзяржавы. І надзвычай важна быць паслядоўнымі ў рэалізацыі свайго курсу.

Я пра гэта гавару яшчэ і таму, што ў вырашэнні абвешчаных у Статуце ААН глабальных і нацыянальных праблем, звязаных з умацаваннем міру і забеспячэннем нацыянальнай бяспекі, умацаваннем даверу і дружбы паміж народамі, ключавую ролю адыгрываюць грамадскія няўрадавыя арганізацыі, у ліку якіх і Беларускі камітэт міру.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ВЯРХІ СУДЗЯЦЦА

## М. ГРЫБ contra А.ЛУКАШЭНКА

**17 кастрычніка спікер беларускага парламента Мечаслаў Грыб накіраваў у Канстытуцыйны суд прапанову разгледзець на адпаведнасць Канстытуцыі прэзідэнцкія ўказы аб назначэнні на пасады віце-прэм'ера былога начальніка Службы кантролю адміністрацыі Прэзідэнта Васіля Далгалёва і кіраўніка адміністрацыі Леаніда Сініцына, а таксама ўказ, якім генерал-лейтэнант Мальцаў назначаны на пасаду міністра абароны.**

**М.Грыб лічыць, што гэтымі ўказамі Прэзідэнт А.Лукашэнка парушыў артыкул 100 Канстытуцыі, згодна з якім Прэзідэнту дадзена права назначаць намеснікаў прэм'ер-міністра, але "са згоды Вярхоўнага Савета".**

**Існуе верагоднасць таго, што М.Грыб звернецца ў Канстытуцыйны суд і ў сувязі з указам А.Лукашэнкі аб зняцці з пасады міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі.**

З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ

## ЗВАЛЬНЕННІ І ПРЫЗНАЧЭННІ

**Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за дапушчанае грубае парушэнне фінансавай дысцыпліны, якое выявілася ў нямэтавым выкарыстанні бюджэтных сродкаў, Захаранка Юрый Мікалаевіч зняты з пасады міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.**

**Выконваючым абавязкі міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь назначаны дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь Шэйман Віктар Уладзіміравіч. На яго ўскладзены абавязкі старшыні калегіі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.**

**Распараджэннем Прэзідэнта Беларусі былы дэкан факультэта журналістыкі БДУ прафесар Алег Слука прызначаны памочнікам Прэзідэнта.**

*"Калі я выбіраўся Прэзідэнтам, бачыў, што ў краіне непарадак, але такой ступені разладу жыцця грамадства, з якой сутыкнуўся пасля выбрання, не чакаў. Кожны месяц пошта прыносіць Прэзідэнту да 30 тысяч пісьмаў. У большасці з іх скаргі грамадзян, у тым ліку ветэранаў, на самавольства мясцовай адміністрацыі, органаў унутраных спраў, судовых інстанцый і гэтак далей. Па пытаннях, што могуць быць вырашаны на месцах, людзі вымушаны звяртацца напрамую да Прэзідэнта. І я вымушаны прымаць жорсткія меры, якімі б непапулярнымі яны ні былі. Першыя тыдні знаходжання на пасадзе Прэзідэнта пераканалі мяне, што толькі моцная ўлада здольна спыніць скочванне рэспублікі ў бездань. Менавіта так я і стаў дзейнічаць. Прэзідэнт, які паставіў адзінай мэтай сваёй дзейнасці дабрабыт народа, не мог не ўступіць у канфрантацыю з сіламі, што хацелі выкарыстоўваць беларускі народ у сваіх палітычных гульнях. Цяпер яны спрабуюць разыграць карту ветэранаў. Але, прымаючы ўказы аб адмене некаторых льгот і аб працуючых пенсіянерах, я ўсведамляў вынікі. Эканоміка -- гэта тая сфера, якая не церпіць папулізму. І калі не прыняць своечасова рашэнне, можа здарыцца катастрофа. Я ўпэўнены, што вы мяне зразумееце і падтрымаеце. Народ сёння падмануць нельга, ён усё роўна разбярэцца, хто жадае яму дабра, а хто хоча на спінах працоўнага народа ўехаць у прывілеяваны "рай".*

*(З выступлення Прэзідэнта Беларусі А. ЛУКАШЭНКІ на сустрэчы з ветэранамі ў Мінску 19 кастрычніка г.г.).*

НЕСУЦЯШАЛЬНАЯ СТАТЫСТЫКА

## КОЦІМСЯ ЎНІЗ

**Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, у перыяд са студзеня па верасень 1995 года на 1 121 прамысловым прадпрыемстве рэспублікі (66,5 працэнта ад іх агульнай колькасці) дапушчаны спад вытворчасці прамысловай прадукцыі. Павялічылі выпуск прадукцыі толькі 565 прадпрыемстваў (33,5 працэнта).**

**У параўнанні з адпаведным перыядам 1994 года аб'ём прамысловай вытворчасці за дзевяць месяцаў сёлета знізіўся на 11 працэнтаў.**

КАР'ЕРА БАНКІРА

## СТАНІСЛАЎ БАГДАНКЕВІЧ — ПРЭЗІДЭНТ

**Былы старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі прафесар Станіслаў Багданкевіч абраны прэзідэнтам новай недзяржаўнай Акадэміі банкаўскага і фінансавага бізнесу.**

**Гэтая ўстанова будзе своеасаблівай вышэйшай школай ведаў для банкіраў Беларусі. Лекцыі для іх ужо пачалі чытаць спецыялісты з Англіі, Германіі, іншых краін; прадугледжаны таксама стажыроўкі беларускіх спецыялістаў за мяжой.**

РЫНАК ПРАЦЫ






**Беспрацоўе становіцца праблемай, ад якой баліць не адна кіруючая галава. І на перыферыі, і ў сталіцы. Праблему беспрацоўя вырашаюць хто як здолее. Мінскі гарадскі цэнтр занятасці насельніцтва сумесна з адміністрацыяй Партызанскага раёна правёў "Кірмаш вакансій". Яго мэта -- зарыентаваць насельніцтва на рынку працы і прыцягнуць увагу кіраўніцтва рэспублікі да праблемы беспрацоўя. На кірмашы ў Мінску было прапанавана больш за 6 тысяч вакансій, і кожны жадаючы мог атрымаць кансультацыю вопытнага юрыста па праблемах працаўладкавання.**

**НА ЗДЫМКАХ: кірмаш вакансій у Мінску; з дапамогай камп'ютэрнага банка даных кожны наведвальнік кірмашу мог хутка знайсці патрэбныя вакансіі.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ГАРАДСКІЯ ўлады Брэста ўвялі з 15 кастрычніка на пагранічных пераходах плату за санітарныя і дыспетчарскія паслугі. Збор з аўтобусаў складае сем мінімальных зарплат, з мікрааўтобусаў -- тры, з легкавых аўтамабіляў -- адна мінімальная зарплата.

ЛІМІТНАЕ выкарыстанне службовага аўтатранспарту ўвёў Магілёўскі аблвыканкам. Цяпер намеснікі старшыні выканкома маюць права ў месяц "наездзіць" толькі тры тысячы кіламетраў, загадчыкі аддзелаў -- да паўтары тысячы. Такая сістэма выкарыстання аўтатранспарту рэкамендавана ва ўсіх гарадах і раёнах вобласці.

ПАГРАНІЧНІКІ Беларусі, якія нясуць службу на мяжы з Польшчай, Літвой, Латвіяй, сёлета ўжо прапусцілі праз пункты пераходу каля 11 мільёнаў чалавек і больш за 2,5 мільёна транспартных сродкаў. За дзевяць месяцаў 1995 года затрымана больш за 3 700 парушальнікаў граніцы, якія наважыліся перайсці яе нелегальна. Канфіскавана ў кантрабандыстаў розных каштоўнасцей, валюты, тавараў на суму, якая перавышае 19 мільярдаў рублёў.

СПЕКТАКЛЕМ "Ідылія" ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна купалаўцы зачаравалі масквічоў. 15 і 16 кастрычніка ў перапоўненай зале Малога тэатра ў рамках Міжнароднага фестывалю нацыянальных тэатраў паказвалі мінчане сваю пастаноўку. Водгукі такія: гэта сапраўднае мастацтва. У тэатра імя Янкі Купалы могуць вучыцца артысты многіх краін.

АСВЯЧЭННЕ Свята-Духаўскай царквы, пабудаванай яшчэ ў 1901 годзе, адбылося ў Бабруйску. Да 1993 года ў царкве размяшчаўся кінатэатр, потым будынак быў перададзены вернікам. Гэта ўжо трэці праваслаўны храм у горадзе. На ўрачыстай цырымоніі быў прысутны Мітрапаліт Мінскі і Магілёўскі Максім.

У БРЭСЦЕ выяўлены і затрыманы асобы, якія займаліся вырабам і распаўсюджаннем у грамадскіх месцах горада лістовак антыхрысціянскага зместу з сімволікай так званых сатаністаў. Следчыя органы высвятляюць дачыненне гэтых асоб да падпалу Свята-Афасьеўскай капліцы ў вёсцы Аркадзія Брэсцкага раёна ў канцы верасня гэтага года.

БЫЛЫ міністр унутраных спраў, нядаўна зняты А.Лукашэнкам са сваёй пасады, Юрый Захаранка пачынае палітычную кар'еру. Супрацоўнікі Гомельскага ўпраўлення ўнутраных спраў выпучылі яго кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі.

РАКА Нёман занадта наблізілася да вёскі Дубна Мастоўскага раёна. Каб пазбегнуць небяспекі для будынкаў, у ваколіцах Дубны на працягу 1,5 кіламетра для Нёмана будзе пракладзена новае рэчышча. На ўсё гэта патрабуецца каля 20 мільярдаў рублёў.

ВАКОЛ КАНФЕРЭНЦЫІ

## СУСТРЭЧЫ НА ВЫШЭЙШЫМ УЗРОЎНІ

**Старшыня Славянскага Сабора "Белая Русь" Мікалай Сяргееў і старшыня культурнага цэнтра "Русь" (г.Віцебск) Ігар Патапаў сустрэліся ў Маскве з кіраўніком Дзяржаўнай думы Расіі Іванам Рыбкіным, віцэ-прэм'ерам Аляксеем Бальшаковым, Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Аляксіем II, генералам Аляксандрам Лебедзем.**

**Паводле звестак з прэс-службы Славянскага Сабора, падчас гэтых сустрэч абмяркоўвалася ў тым ліку і пытанне аб перспектывах стварэння беларуска-расійскага канфедэратыўнага саюза.**

ПАДАТКОВАЯ ПЯТЛЯ

## "ПУШЭ" ЗГОРТВАЕ СВАЮ ДЗЕЙНАСЦЬ

**Такое рашэнне прадыктавана сённяшняй сітуацыяй у сферы падаткаў. Падатковы прэс настолькі вялікі, што нават адно з самых буйных прадпрыемстваў не можа нармальна функцыянаваць. "Пушэ" згортвае сваю дзейнасць да ўвядзення новага падатковага кодэкса. А.Пупейка, прэзідэнт "Пушэ", выказаў спадзяванне, што існуючая сістэма будзе зменена. Падаткі павінны быць інструментам развіцця прамысловасці, а не наадварот.**

**Пакуль жа асноўную дзейнасць "Пушэ" ажыццяўляе на тэрыторыі суседняй Украіны.**

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

## КАЛІ ЛАСКА, У ЛАГЕР

**На тэрыторыі Польшчы будзе створаны дэпартацыйны лагер для іншаземцаў, якія не падпарадкаваліся рашэнню ўладаў пакінуць краіну. Такое рашэнне, паводле звестак БелаПАН, прынята ў сувязі з абвастрэннем крымінагеннай сітуацыі і ростам колькасці злачынстваў у Польшчы з удзелам замежных грамадзян, і ў першую чаргу з краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў.**

**Па тых жа прычынах у шэрагу гарадоў Польшчы плануецца стварыць спецыяльныя памяшканні турэмнага тыпу для асоб, якія ўчынілі найбольш цяжкія злачынствы. Першапачаткова яны будуць створаны пры следчых ізалятарах у Катавіцах і Ольштыне, а таксама ў папраўчай установе ў Вроцлаўскім ваяводстве.**

**Колькі беларускіх грамадзян рызыкуюць стаць "кліентамі" падобных установ, можна меркаваць па тым, што толькі на працягу гэтага года паліцыяй Польшчы за розныя проціпраўныя дзеянні было затрымана больш чым пяцьсот грамадзян Беларусі.**

**Па звестках за першае паўгоддзе, у месцах пазбаўлення волі на польскай тэрыторыі знаходзілася 230 беларускіх грамадзян. Тэрміны пакарання яны адбываюць у асноўным за рабаўніцтва і крадзяжы, у тым ліку аўтатранспарту.**

СУЧАСНЫЯ ВАНДАЛЫ



**Невядомымі вандаламі ў Крычаве пашкоджаны помнік-абеліск у гонар вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Мемарыяльная пліта, дзе былі напісаны прозвішчы салдат і афіцэраў, нумары воінскіх часцей, разбіта. Гэта толькі адзін з апошніх прыкладаў, якія сведчаць аб падзенні маралі грамадства. Сумна і трывожна.**

# Я СЁННЯ ГАСПАДАР

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й ставр.).

-- Аўтарытэт кіраўніка заўсёды залежаў і залежыць цяпер ад таго, што і як ён робіць, ці ёсць ад яго карысць справе і калектыву. Калі ёсць, то ўсё будзе ў парадку. Так, людзей трэба заўсёды выслухаць, параіцца з імі, усё ўзважыць. Але рашэнне прыняць самастойна.

Кіраваць жа сёння нават крыху лягчэй, бо дырэктары саўгасаў і старшыні калгасаў зараз маюць значна больш, чым раней, самастойнасці ў прыняцці рашэнняў.

Гэта па-першае. Па-другое, цяпер няма ўсіх гэтых парткомаў, райкомаў, куды так любілі бегаць скардзіцца, так званыя, пакрыўджаныя і адкуль ішлі бясконцыя праверкі, "прачысткі мазгоў". Дарэчы, калі не стрымаешся і што-небудзь скажаш у адказ, то і з работы "зляціш" вельмі хутка -- каб не пярэчыў...

Сёння гэтага няма, і я бачу, што людзі пачалі больш лічыцца з непасрэднымі кіраўнікамі, з тымі, хто разам з імі нясе цяжар агульнай справы. Так, часы цяпер не самыя лепшыя, але ж не ўсе і не ўсё ў заняпадзе. Ёсць гаспадаркі, якія не толькі, так бы мовіць, трымаюцца, але, як напрыклад, наша, знаходзяць яшчэ магчымасць тое-сёе будаваць, своечасова выплачваць рабочым заработную плату... Цяжка, канешне, і нам, але знаходзіць нейкае выйсце, вырашаць праблемы магчыма і сёння. Было б жаданне.

*-- Вадзім Вікенцьевіч, на сёлетніх парламенцкіх выбарах сярод кандыдатаў у дэпутаты было і, мабыць, на паўторных выбарах таксама будзе вельмі многа старшынь калгасаў і дырэктараў саўгасаў. Што рухае імі не так ужо і цяжка ўявіць: адзін прыклад цяперашняга кіраўніка краіны чаго варты, калі чалавек з крэсла дырэктара саўгаса трапіў у прэзідэнцкае... Але ж я хачу завастрыць увагу не на гэтым моманце. Сярод тых, хто ўсё ж такі набыў дэпутацкае званне, многа вашых калег, за іх дружна галасавалі сяляне. Чаму? Няўжо толькі з-за таго, што іх кіраўнікі самыя выдатныя спецыялісты і чуйныя людзі? Тады лепей было б пакінуць іх на сваіх пасадах -- няхай паляпшаюць жыццё непасрэдна на месцы?*

-- Скажу адразу: я таксама балаціраваўся ў Вярхоўны Савет ад Аграрнай партыі і прайграў свайму саперніку, які прадстаўляў адміністрацыю прэзідэнта. Але маё рашэнне вылучацца на выбары не было прадыктавана жаданнем некуды "збегчы", кінуць гаспадарку, дзе працую шмат год і дзе справы ідуць зусім не кепска. Я наогул не збіраўся развітвацца са сваёй работай у саўгасе. І мне даводзілася чуць такія досыць парадаксальныя меркаванні: мы не будзем за вас галасаваць, бо не хочам, каб у нас быў новы дырэктар. І смешна, і прыемна...

*-- А я чула, тым не менш, "вашы" дружна прагаласавалі за вас...*

-- Так, прагаласавалі і ў першым, і ў другім туры, але акруга ў нас была складаная, вялікая, перамог мой апанент.

*-- Вадзім Вікенцьевіч, ваша эксперыментальная база -- цалкам дзяржаўная маёмасць?*

-- Так, мы пакуль не праводзілі прыватызацыю.

*-- А як асабіста вы ставіцеся да фермерства? Чаму, на ваш погляд, яно зараз неяк затухла?*

-- Я лічу, што будучыня ў фермерскіх гаспадарак у нашай краіне ёсць. Прычым, на мой погляд, гэта павінна быць буйное фермерства, а не дробнае. Мне здаецца, што ў фермерскай справе мы не ўсё добра прадумалі, нават паспяшаліся.

Давайце ўзгадаем нядаўняе мінулае. Што ад нас тады патрабавалі? Каб розніца ў аплаце асобных працаўнікоў была як мага меншай. Калі недзе атрымліваўся значны адрыў у аплаце стараннага рабочага і пайдака, то кіраўнік гаспадаркі яшчэ і вымову мог атрымаць. Усё тая ж ураўнілаўка, адным словам. Вось гэтая ўраўнілаўка вельмі нам пашкодзіла ў тым плане, што ў людзей было вытраўлена жаданне працаваць многа і добра. Сапраўды, а навошта, калі ўсё роўна заробіш амаль тое ж, што і які-небудзь п'яніца?! Вось, на жаль, і атрымалася, што калі ўзнікла магчымасць заняцца фермерствам, жадаючых аказалася няшмат. Да таго ж сярод тых, хто прэтэндаваў на зямлю, было дастаткова аматараў хутка разбагацець, але пры гэтым працаваць многа і добра, як гэта неабходна ў фермерскай гаспадарцы, ім не хацелася. Мне давялося сустракацца з такімі прыкладамі, калі саўгасныя палі ўжо ўбраныя, а побач фермерскае стаіць -- гіне. Проста душа баліць глядзець на гэта. Што рабіць, даводзіцца пасылаць саўгасны камбайн, каб сабралі фермерскае збожжа, бо прападзе наогул.

Але нягледзячы на тое, што ў цэлым наша гаспадарка дзяржаўная, ніякай ранейшай ураўнілаўкі ў аплаце мы не дапускаем. Калі добра працуеш, то і заработную плату атрымлівай адпаведную. Такі падыход у прамым сэнсе выхоўвае ў людзях жаданне і ўменне працаваць. Мне ўжо не трэба некага падганяць, сачыць, каб не лайдачыў, бо ў чалавека з'явілася зацікаўленасць у выніках сваёй працы, нярэдка ён па ўласнаму жаданню і на працу прыйдзе раней, і з працы пойдзе пазней. Ды і я ўжо як кіраўнік гаспадаркі нарэшце адчуў сябе гаспадаром, які сам вырашае, як лепей зрабіць, каб і для гаспадаркі, і для людзей, якія там працуюць, было добра. Цяпер трэба шмат думаць на месцах.

*-- Але можна часта чуць, што ў нашай калгасна-саўгаснай Беларусі гэтыя самыя калгасы-саўгасы з-за эканамічных умоў "ляжаць на лапатках". Як вы лічыце, ці сапраўды наша сельская гаспадарка ўжо даходзіць? А калі гэта так, то чаму? Дарэчы, вось у вас справы ідуць больш-менш нармальна...*

-- Ведаеце, многія людзі ўжо прызвычаіліся, што ў нас увесь час што-небудзь ідзе дрэнна. І ў рэшце рэшт некаторыя пачынаюць думаць прыкладна так: усё паўсюль дрэнна, і ў суседа -- дрэнна, тады чаму ў мяне павінна быць лепш? А таму навошта браць на сябе дадатковыя клопаты, усё роўна нічога добрага не атрымаецца. Да таго ж многія з нас за мінулыя гады прызвычаіліся працаваць па ўказцы. А сёння, калі гэтая ўказка амаль знікла, а сваёй ініцыятывы ў рабоце не хапае, некаторыя людзі проста разгубіліся і не ведаюць, што рабіць. А ў дадатак яшчэ аб'ектыўныя эканамічныя цяжкасці. Вось [illegible]складваецца сітуацыя ў асобных гаспа[illegible]ах сапраўды катастрафічная. Мы [illegible] сябе ўвесь час думаем, як выжыць, што б яшчэ такое пасадзіць, вырасціць, каб зарабіць грошай... Можа, таму і трымаемся. Хаця вытворчы спад [illegible] і ў нас. Але ў адрозненне ад мно[illegible]ых, наша гаспадарка -- плацежаздоль[illegible], крэдыты бяром невялікія -- да 100 мільёнаў рублёў. А ўсё таму, што імкнемся выпрацоўваць тое, што можна прадаць, тое, што патрэбна нашаму рынку, напрыклад, раннюю гародніну і раннюю бульбу. Хаця я згодны, што палітыка цяперашніх нашых улад у адносінах аграрыяў мае шмат заган.

*-- Які профіль вашай гаспадаркі?*

-- Раслінаводства, і ў першую чаргу развядзенне перспектыўных сартоў бульбы. Але, на жаль, у апошнія гады гэтая роля -- менавіта эксперыментальнай базы -- стала губляцца. Не хочуць нашы сельскія вытворцы купляць насенне той жа бульбы высокіх рэпрадукцый. Дарага, лічаць, непатрэбна ім. А што будуць атрымліваць праз некалькі год, не задумваюцца. Без абнаўлення насення, без племяннай работы ў жывёлагадоўлі можна згубіць усё, што маем сёння. Увогуле цяпер вельмі многа бульбы вырошчвае насельніцтва, таму ў бліжэйшы час Беларусь без бульбы не застанецца. Справа ў іншым: зараз больш выгадна займацца таварнай бульбай, чым насеннай. Але мы не кінулі гэтую справу, некаму ж трэба дбаць і пра будучыню.

*-- У нашай краіне пры ўсіх грамадскіх і палітычных катаклізмах сельскае насельніцтва аказвалася ў больш складаным становішчы, чым гарадское, ды і ўвогуле сяляне жылі заўсёды бядней за гараджан. Як складваецца сітуацыя цяпер, у час вялікай неразбярыхі?*

-- Я спадзяюся, што тыя, хто працуе ў нашым саўгасе, сёння нават крыху багацейшыя за гараджан.

У нас ёсць добры дзіцячы сад, сярэдняя школа. Каб было зручней, на тэрыторыі гаспадаркі адкрылі аддзяленне Ашчадбанка, аддзяленне міліцыі, хутка будуць і пажарныя. Калі з горада звяртаюцца з выгаднай прапановай распачаць нейкую вытворчасць, таксама не адмаўляемся -- болей рабочых месцаў будзе для мясцовых жыхароў. І што вельмі важна, мы на вёсцы трымаем падсобную гаспадарку. А саўгас заўсёды тут дапамагае сваім людзям. Ва ўсялякім разе праблем з кармамі для жывёлы ў іх няма. Калі селянін працуе, а не вырошчвае на падвор'і бур'ян, то жыць будзе, і нядрэнна.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

## НА ТРАСЕ БРЭСТ— ГОМЕЛЬ



**Чатырнаццаць новых магазінаў пабудавана ў Іванаўскім раёне. Гэтыя гандлёвыя кропкі прыносяць значны прыбытак. Напрыклад, гандлёвы цэнтр "Астравок", што размясціўся на бойкім месцы ля трасы Брэст--Гомель, прыцягвае пакупнікоў багаццем прадуктовых, прамысловых і іншых тавараў.**

**НА ЗДЫМКУ: гандлёвы цэнтр "Астравок".**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

# У ІМЯ МІРУ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

З першых дзён свайго стварэння (на 1-й Беларускай канферэнцыі прыхільнікаў міру ў верасні 1951 года) Беларускі камітэт міру, [illegible]ічаючы ў духу высокіх мэт, выклад[illegible]ых у Статуце ААН, накіраваў галоўныя намаганні міралюбівай грамадскасці Беларусі на прадухіленне новай сусветнай вайны.

Да гэтага моманту да[illegible]ула крытычнай кропкі процібор[illegible]ва дзвюх палітычных сістэм і адпаведных ваенных блокаў НАТА і Варшаўскага Дагавора. Узнікшая "халодная вайна" ў любы момант магла ператварыцца ў "гарачую" сусветную вайну ў глабальных маштабах з катастрафічнымі вынікамі ў выглядзе прымянення ядзернай зброі. У гэтых умовах калектыўны розум і вялікая адзіная воля міралюбівых сіл планеты змаглі не дапусціць сусветнай катастрофы. Мір быў захаваны. І сёння варта адзначыць, што беларускі народ дастойна выканаў свой грамадзянскі абавязак і ўнёс істотны ўклад у складзе міжнароднага руху прыхільнікаў міру па прадухіленню новай сусветнай вайны. Намаганні беларускіх міратворцаў аб'ядналі такія выдатныя грамадскія дзеячы, як Якуб Колас -- першы Старшыня Беларускага камітэта міру, а таксама наступныя Старшыні БКМ Аркадзь Куляшоў, Іван Мележ, Пімен Панчанка, Іван Шамякін, сотні і тысячы іншых вядомых вучоных, літаратараў, журналістаў, артыстаў, музыкантаў, рабочых, працаўнікоў вёскі і інш.

Актыўнасць беларускага руху за мір была не толькі заўважана, але і атрымала сусветнае прызнанне. 15 верасня 1987 года Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый Беларускаму камітэту міру было прысвоена ганаровае званне "Пасланец міру" і ўручаны спецыяльны Дыплом за подпісам генеральнага сакратара ААН Перэса дэ Куэльяра.

Сёння напярэдадні 50-годдзя ААН і міжнароднага Тыдня дзеянняў за раззбраенне ў свеце адбыліся істотныя перамены. Аднак ваеннае пытанне не толькі не знята з парадку дня, але і абвастрылася перад многімі краінамі ў поўным аб'ёме. Новая абстаноўка запатрабавала змяніць некаторыя акцэнты, унесці карэктывы ў нашы задачы і асноўныя напрамкі дзейнасці.

На прайшоўшай 10 лютага 1995 года Пазачарговай канферэнцыі прыхільнікаў міру Беларусі ў якасці галоўных былі вызначаны наступныя статутныя мэты і задачы:

-- умацаванне грамадзянскага міру і нацыянальнай згоды ў Рэспубліцы Беларусь;

-- развіццё міжнародных міратворчых сувязей;

-- садзейнічанне ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы;

-- садзейнічанне забеспячэнню мірных умоў для развіцця і ўмацавання Рэспублікі Беларусь як палітычна і эканамічна незалежнай дзяржавы;

-- ажыццяўленне грамадзянскага кантролю за выкананнем міжнародных пагадненняў па скарачэнню баявой тэхнікі, зброі і колькасці арміі;

-- уцягненне шырокіх слаёў грамадскасці Беларусі ў вырашэнне праблем міру паміж народамі;

-- правядзенне міжнародных форумаў і іншых акцый па актуальных праблемах вайны і міру і інш.

У рэалізацыі гэтых і іншых статутных задач БКМ у апошні перыяд быў праведзены шэраг нестандартных і важных па сваёй значнасці мерапрыемстваў: сустрэчы з прадстаўнікамі Мінабароны Рэспублікі Беларусь, экспертамі з НАТА, абмен міратворчымі дэлегацыямі ў рамках народнай дыпламатыі, арганізацыя і ўдзел у рабоце міжнародных канферэнцый, на якіх абмяркоўваліся актуальныя праблемы нацыянальнай і рэгіянальнай бяспекі, раззбраення, спыненне выпрабаванняў ядзернай зброі і інш.

Аднак сёння становішча ў свеце не дае падстаў для супакаення і лагоднасці (мадэрнізацыя і выпрабаванні ядзернай зброі, нявінныя ахвяры ў Югаславіі, Чэчні і іншых рэгіёнах, праблемы тэрарызму ў міжнародных маштабах і г.д.). Не выключаны падставы для занепакоенасці і ўнутры нашай краіны. Усё гэта патрабуе ад Беларускага руху за мір стараннага вывучэння і ацэнкі знешнепалітычнай і ўнутранай абстаноўкі ў свеце і ў нашай краіне, аналізу існуючых і чакаемых падзей і своечасовага рэагавання ў рамках магчымасцей міратворчага руху.

У дзейнасці ААН маюцца і вельмі спрэчныя моманты з пазіцыі міратворчага руху. Аднак гэта асобая размова. Сёння святкаванне юбілею ААН з'яўляецца добрай прычынай для актывізацыі дзейнасці ўсяго міратворчага руху Беларусі, усіх прыхільнікаў свету незалежна ад іх палітычнай прыхільнасці.

50-годдзе ААН -- падзея сусветнага гістарычнага значэння, і хочацца спадзявацца, што яно з'явіцца перамогай ідэй міру, супрацоўніцтва і дружбы народаў нашай планеты.

**Іван КІРЫЧЭНКА, старшыня Беларускага камітэта міру, генеральны дырэктар Нацыянальнага Цэнтра стратэгічных даследаванняў.**

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"




-- Так.
-- Ідзі і глядзі!.. У такую ноч цяжка заўважыць што-небудзь, няма слядоў...
-- Добра.
-- Зробіш тры кругі... Але каб выразна...

Я адліў крыху сьпірту, скінуў на сьнег ношку і пайшоў да хутара. Пералез праз плот і апынуўся на дзядзінцы. Зьдзівіла толькі тая акалічнасьць, што да мяне ня кінуўся насустрач сабака. Падумаў: "Можа, забіўся ў якую дзюрку ды сьпіць". Я падышоў да вакна і памалу пастукаў у шыбіну. Ніхто не адгукнуўся. Пастукаў мацней. У хаце запалілі лямпу, аднак вокны былі завешаны зь сярэдзіны, і я ня мог нічога ўбачыць. Зьдзівіла, што Лёня не адказвала праз вакно. "Магчыма, не спадзяецца, што так позна прыйдзем, і думае, што гэта нехта чужы, і апранаецца".

Я пайшоў на ганак. Дзьверы ў сенцы былі адамкнутыя. Наступныя дзьверы, што вялі ў памяшканьне, таксама. Я ўвайшоў усярэдзіну. Убачыў Лёню, якая, стоячы ля стала, зь нейкім незвычайным тварам глядзела мне ў вочы і не ішла на спатканьне, так, як гэта рабіла заўсёды.

"Дзіўна!.. Так хутка апранулася!.. І чаму не вітаецца са мной!"

-- Дзень добры! -- прамовіў я.
-- Дзень добры. Што вам трэба? -- запытала мяне Лёня і скоса паглядзела направа.

Там была доўгая занавеска, за якой стаяў ложак Лёні. Гэтую занавеску можна адсоўваць па дроце, бо была падвешана на жалезных кольцах. Яна засоўвалася на дзень, а ўначы заўжды была адхінутая. Зараз жа шчыльна закрывала ложак, хоць было яшчэ зусім рана.

Унізе занавеска не даставала падлогі. Я паглядзеў туды і заўважыў унізе наскі ад двух пар ботаў. Адзін зь іх зварухнуўся. Сумненьня не было: там хаваліся нейкія людзі.

"Засада", -- падумаў я і спакойна прамовіў да Лёні.
-- Скажыце мне, гаспадынька, якой дарогай можна хутчэй патрапіць да Мінска?.. Такая завея! Зьбіўся я з дарогі, аж сюды прыблукаў... Ня ведаю, дзе і знаходжуся...

Лёня зьлёгку ўсьміхнулася і адказала:
-- Ідзіце каля хутара аж да мастка. А там направа... Выйдзеце акурат на тракт.

Я пачуў нейкі шоргат ззаду, за дзьвярыма.
"І ў сенцах таксама людзі", -- падумаў.

У гэты ж момант занавеска гвалтоўна адсунулася набок, і з-за яе выйшаў высокі мужчына ў доўгім сівым шынялі і будзёнаўцы зь вялікай чырвонай зоркай на шлеме. За ім крочыў моцны, плячысты мужчына ў чорнай бякешы, зь вялізнай чорнай папахай на галаве. Ён меў кароткую рыжую бараду і шрам на левай шчацэ. Зь іроніяй сьвідраваў мяне вачыма.

"Макараў!" -- здагадаўся я.
-- Ёсьць птушачка! -- прамовіў, крыва ўсьміхнуўшыся, падпольнік. -- Скакаў, скакаў і даскакаўся!

Наблізіўся да мяне і замахнуўся кулаком, каб стукнуць. Я адхіліўся ад удару. Вайсковец загадаў:
-- Не чапай яго! Паглядзім, што гэта за нумар.

Макараў, адчыніўшы дзьверы ў сенцы, гукнуў:
-- Хадзіце сюды, таварышы. Адну "дрань" маем!

У хату ўвайшло шэсьць чырвонаармейцаў з кароткімі кавалерыйскімі карабінамі ў руках.
-- Хорош гусь! -- вымавіў адзін.
-- Не гусь, а мокрая курица! -- дадаў другі, маючы на ўвазе маё засьнежанае адзеньне, зь якога ў цёплай хаце пацякла вада.

Вайсковец, на рукаве якога я заўважыў два кубікі, зьвярнуўся да Макарава:
-- Вазьмі чатырох чалавек і ідзі зь імі да стадолы! Напэўна, сёньня ніхто больш ня прыйдзе. А калі ж прыйдуць, дык упусьці іх усярэдзіну.

Пасьля ён загадаў чырвонаармейцам, што засталіся ў хаце:
-- Пільнуйце гэтага госьця! Калі зварухнецца -- кулю ў лоб!

Пасьля паказаў мне пальцам на стол:
-- Залазь туды!.. У кут...

Калі я ўсеўся за сталом (наказаў зрабіць так, каб пазбавіць мяне магчымасьці ўцячы), вайсковец зноў зьвярнуўся да чырвонаармейцаў:
-- Глядзіце таксама за жанчынай!.. Каб не размаўлялі... Ані слоўка!..

Затым выйшаў з хаты.

Салдаты трымалі зброю напагатове.

Зірнуў на Лёню. Твар мела сумны, але не зьляканы. Калі чырвонаармейцы не глядзелі на нас, усьміхнулася мне. Адказаў усьмешкай.

"Хаця б хлопцы не ўляцелі", -- думаў я без перапынку, адначасова плануючы адказы на пытаньні, якія маглі мне задаць.

Калі праз паўгадзіны вярнуліся ў хату вайсковец з двума кубікамі на шынялі і Макараў разам з чырвонаармейцамі, я зусім супакоіўся: "Хлопцы далі драла! Столькі часу яны не будуць чакаць... Зразумелі, што адбылася нейкая бяда, і ня прыйдуць сюды! Вернуцца за граніцу... Але ж намучаюцца, бедакі!.. Гэта лёс!.."

-- Выйдзі з-за стала! -- зьвярнуўся да мяне вайсковец.
Я стаў ля сьцяны.
-- Распранайся!
Пачаў здымаць адзеньне. Застаўся толькі ў споднім.
-- Здымай усё! -- крыкнуў Макараў.
-- Там жа жанчына... -- адказаў я.
-- А што гэта цябе хвалюе!.. Ня бойся, яна ў такіх рэчах добра разьбіраецца! -- захіхікаў Макараў.

Разьдзеўся дагала. Перагрэсьлі маё ўбраньне. Заглянулі ў рот, пад пахі, пад падэшвы ног, агледзелі нават валасы. Пасьля перабралі бялізну і кінулі яе мне.
-- Адзеньса, -- загадаў вайсковец.

Штука за штукай падрабязна агледзелі мае рэчы. Падцяжкі, папружку, партманет, грошы, гадзіньнік, сьцізорык, ліхтарык, насоўку і паклалі ўсё на стол.

Дазволілі апрануцца.
-- Дайце, таварыш, закурыць, -- зьвярнуўся я да вайскоўца.
-- Гусь сьвіньні не таварыш! -- адрэзаў мне.

Макараў зарагатаў.

Зьявілася жаданьне запытацца ў вайскоўца: "Хто ж з нас гусь, а хто сьвіньня?"

Праз нейкі час вайсковец падаў з маёй каробкі адну папяросу і сказаў:
-- Трымай... закуры і кажы праўду!.. бо будзе дрэнна! Будзем біць!..

Я закурыў папяросу.

Вайсковец выняў з тоўстай папкі аркуш паперы і паклаў на стол. Гэта быў друкаваны фармуляр. Пачаў пытацца ў мяне пра імя, прозьвішча, год нараджэньня і г.д. А калі ён скончыў запісваць зьвесткі пра мяне, то пагрозьліва запытаўся:
-- Ты з Польшчы?
-- Так.
-- Чаго прыйшоў у Саветы?

Прыгадаў сабе апавяданьне Лорда ў Калішанак пра тое, як яго арыштавалі на савецкай заставе і як потым дапытвалі ў Койданаве. Але Лорд быў з таварам, а я ня меў пры сабе ношкі. Гэта было добра для Лёні, аднак абцяжарвала маю правіну.
-- Дрэнна мне было ў Польшчы, -- адказаў, -- таму прыйшоў сюды, каб назаўсёды застацца ў Саветах.
-- А грошы адкуль?
-- Прадаў усе свае рэчы.
-- Выкручваешся, дрэнь!
-- Праўду кажу вам.
-- Колькі разоў быў тут?
-- Упершыню трапіў сюды.

Вайсковец зьвярнуўся да Лёні:
-- Ведаеш яго?
-- Ня ведаю! -- коратка і сьмела адказала Лёня.

Тады вайсковец зьвярнуўся да мяне:
-- Ты слухай, што я табе скажу! Кажы праўду: колькі разоў быў тут з кантрабандай і дзе твой тавар? Ты яе не шкадуй! -- рухам галавы ён паказаў на Лёню. -- Ты сябе ратуй, бо будзе кепска. Зразумей гэта: калі ты не кантрабандыст, дык шпіён!.. Ну, расказвай!..
-- Я не кантрабандыст і не шпіён. Прыйшоў сюды, каб назаўсёды застацца ў Расеі.
-- І застанешся тут назаўжды!.. але ў зямлі! Разумееш?.. -- адгукнуўся Макараў.

Не адказаў яму і нават не паглядзеў у той бок. Адчуў да гэтага чалавека агіду і нянавісьць. Маё маўчаньне раздражніла яго. Макараў зьвярнуўся да вайскоўца:
-- Што зь ім бавішся? Наладзіць яму лазьню -- паіншаму засьпявае!

Зрабіў некалькі крокаў да мяне. Кулакі былі сьціснутыя. З-за прыкрытых вуснаў выглядалі жоўтыя зубы. Згадаў сабе, што Цьвік бараніўся, і падумаў: "Усе роўна будуць біць. Дык хоць не намарна!"

Стоячы ў мокрым адзеньні, я ўвесь трымцеў ад холаду. Макараву падалося, што калачуся ад страху. Гэта яшчэ больш падахвоціла і асьмеліла яго. Калі ж падпольнік замахнуўся кулаком, хутка адбіў удар і ўсім цяжарам свайго цела ірвануў наперад... Стукнуў яго ілбом у нос і ў ніжнюю частку твару. Такі прыём называецца "быком", альбо "дацкім пацалункам", а вынікі ад яго бываюць жахлівыя. Мне падалося, што прагучаў трэск костак. Макараў войкнуў і абсунуўся на падлогу. Закрыў рукамі твар.

Вайсковец крыкнуў чырвонаармейцам:
-- Хапайце яго!

Я ўскочыў на лаўку, а зь яе на стол. Сарваўшы са сьцяны вялікую, апраўленую ў раму рэпрадукцыю карціны, кінуў у лямпу, якая вісела пасярод хаты. Пачуўся бразгат шкла, і хата апынулася ў цемры. Я мацаў рукамі па сьценах, шукаючы тое, чым мог бы абараняцца. Патрапіў на вялікі дубовы крыж. Сарваў яго са сьцяны. Быў дастаткова важкі.

У гэты момант бліснулі электрычныя ліхтарыкі, і яркі прамень на хвіліну асьляпіў мяне.
-- Хапайце яго! -- зноў крыкнуў вайсковец.

Я падняў угару крыж. Чырвонаармейцы завагаліся. Скарыстаўшы гэта, перакуліў стол на падлогу. Стаў за ім, нібыта за барыкадай.
-- Здавайся, або ў лоб пальну! -- пракрычаў вайсковец.
-- Лупі, хам! -- закрычаў я. -- Кайданы ськінулі, а скуру зьдзіраеце! Валі!..
-- Узяць яго! Наперад!.. Прыкладамі яго!..

Салдаты кінуліся да мяне. Я біўся зацята. Зноў трапіў у сярэдзіну буры. Але зараз асьляпляла мяне кроў. Чуў не завываньне віхуры, а крыкі ўзбуджаных бойкай чырвонаармейцаў і ціхі плач Лёні. Мяне крыху засланяў стол, але неўзабаве яго адцягнулі набок.

Тады я кінуўся наперад, б'ючы ўсьляпую крыжам управа і ўлева. Амаль не адчуваў удараў ад прыкладаў карабінаў...

Раптам зразумеў, што губляю прытомнасьць. Падлога пайшла ў мяне з-пад ног. Апошнім водбліскам сьвядомасьці адчуў непадалёку ад сваёй галавы нечыю нагу. Угрызься ў яе зубамі.
-- Гэта сукін сын! -- разьнёсься вокліч вайскоўца.

Болей нічога не памятаю... Усё патанула ў змроку...

Частка другая

## ВОЎЧАЙ СЬЦЕЖКАЙ

*Граніца накорміць,*
*Граніца напоіць,*
*Граніца пацешыць,*
*Граніца выстроіць!*

**Зь песьні перамытнікаў.**

### 1

Набліжаецца канец сакавіка. Адчуваю надыход вясны. Сум кроіць маё сэрца.

Шосты тыдзень сяджу ў першым падвале мінскай "Чрэзвычайкі". Камера, куды мяне ўкінулі, цёмная і вільготная. Са сьцен сьцякае вада. Праз брудныя мутныя шыбіны малога закратаванага вакенца прасочваецца дзённае сьвятло. Праз вакно відаць боты салдатаў і чэкістаў, якія праходзяць па дзядзінцы. Вакол страшэнны бруд. Ад усяго клеіцца балота. Напачатку нават баяўся датыкацца да сьцен, дзьвярэй і нараў. Зараз ужо прызвычаіўся. Паветра непрыемнае, смуроднае, настоенае вільгацьцю і потам ніколі ня мытых цел. Бялізну ніхто не мяняе, "параша" -- вялікі драўляны кубел, дрэнна замыкаецца і працякае. Прасочваючыся на падлогу, мача ўтварае калюжыны, якія вязьні нагамі разносяць па ўсёй камеры.

Нас тут адзінаццаць. Ледзь змяшчаемся ў маленькай прасторы. На нарах сьпяць сямёра, а на падлозе -- чацьвёра. Часам падкідваюць новых, аднак часта і выпускаюць або пераводзяць куды-небудзь у іншае месца. Мы знаходзімся тут найдаўжэй.

Акрамя мяне, яшчэ сядзяць двое перамытнікаў, якія жывуць за граніцай у вёсцы, непадалёку ад Стоўбцаў. Гэта браты -- Ян і Мікола Спландзіновы. Яны маладыя: аднаму 20, другому -- 23 гады. Папаліся на мяліне каля Койданава. Гаспадар іхняга пункта -- Умэнскі -- плячысты, моцны селянін, сядзіць разам зь імі. Спачатку былі разлучаныя, а зараз іх зьвялі. З гэтага можна было рабіць вывад, што справа іх не такая ўжо кепская.

Ёсьць адзін самагоншчык -- Каспар Буня, велічэзны, касьцісты селянін. Ён жыў у смалакурні каля Заслаўя і там са збожжа гнаў гарэлку. Злавілі яго на гарачым -- пры апараце. На ім быў вялікі кажух, ад якога на ўсю камеру сьмярдзела дзёгцем.

Ля вакна стаіць Жаба, злодзей-рэцыдывіст. Засунуўшы рукі ў кішэні, сьвісьціць. Цяжка вызначыць яго ўзрост. Можна даць і 40, і 50 гадоў, а магчыма, нават і больш. Галава ў яго вялікая. Рот ад вуха да вуха. Вочы, мутныя, бяз выразу, выглядаюць на бруднай скуры твару, нібы зьліпкі макротаў. Заўсёды сагнуты. Цела слабое, але з адзнакамі вялікага спрыту.

Ёсьць адзін бандыт -- Іван Лобаў. Сядзіць за некалькі нападаў і абрабаваньняў. Гэта прыстойны з выгляду мужчына гадоў 35. У яго чорная клінком барада. Заўсёды сьмяецца. Пакідае ўражаньне ўладзімірскага "багамаза". Яго даўно б ужо "пусьцілі ў расход", але тут стараюцца заможныя сваякі.

Ёсьць тэхнік з тэлеграфа -- Фэліцыян Кропка. Абвінавачаны ў сабатажы, бо выпадкова спаліў рэастат высокага напружаньня. Зрабіўся ахвярай нейкага камісара, пра якога ён часта расказвае і які заўжды яго прыціскаў, пакуль не скарыстаў магчымасьць і засадзіў у ЧК. Кропка выглядае страшэнна запалоханым чалавекам. Пры кожным скрыпе дзьвярэй ён трасецца, нібы ў ліхаманцы. Сам жа сьмешны: малы, заўсёды пацірае рукі далонямі адна аб другую, а калі слухае каго-небудзь, тады разяўляе рот.

Ёсьць і контррэвалюцыянер -- у мінулым афіцэр царскай арміі -- Аляксандр Кваліньскі, які працаваў у нейкай савецкай установе і якога зараз засадзілі сюды. Гэта высокі, смуглы мужчына гадоў 40. Заўсёды маўчыць. Твар бледны, змучаны. Амаль заўсёды ляжыць на нарах, але ня сьпіць, а гадзінамі ўзіраецца ў столь. Нават робіцца шкада, што такі інтэлігентны, выхаваны і, як я заўважыў, вельмі добры чалавек прападае тут з намі.

Ёсьць адзін жыд. Тоўсты, цяжкі: за плячыма мае, напэўна, пяцьдзесят гадоў. Яго прозвішча Кобэр, а імя Гірш. Да вайны быў фабрыкантам, вырабляў карты для гульняў. Зараз сядзіць за спекуляцыю. Яму найлепш у нашым астрозе. Штодня прыносяць з горада абеды. Яго часта выклікаюць на допыты. Тады Жаба кажа, што яго зноў будуць даіць.

Адзінаццаты чалавек у нашай камеры -- крануты. Клічуць яго ўсе: і мы, і чэкісты, і салдаты "Бзік". Ніхто ня ведае ні яго імя, ні прозьвішча. Арыштаваны ж быў у цягніку, недалёка ад Слуцка. Гэта высокі, худы маладзён. У яго вялікія вочы, якія незвычайна гараць. Ён заўсёды ходзіць па камеры і часта выбухае сьмехам, які нас заўсёды бянтэжыць. Яго падазравалі ў шпіянажы. Зараз увогуле не дапытваюць. Мусіць, забыліся пра яго або ўзялі "на вытрымку".

Дні паўзуць нудна, сумна, доўга. Заядае самота, надакучае голад. Голад не выходзіць з нашай камеры. Увесь час мы думаем пра ежу, у марах толькі ежа. Рухаемся з апатыяй, павольна. Голад выбеліў нашы твары, прыпудрыў зялёным і жоўтым, паклаў чорныя цені пад вачыма. У некаторых апухлі ногі і рукі. Заўважыў, што і ў мяне пачынаюць ацякаць ногі. Другая балячка, якая далася ў знакі, -- гэта вошы. Вялізныя турэмныя вошы, лянівыя, сонныя, як і мы (хоць не з голаду, а, магчыма, з пераяданьня), пасьвяцца на нашым целе. Вошай шмат. Поўзаюць нават па адзеньні і па дошках нараў. Ня б'ем іх. Гэта нічога не дае. На месцы сотні забітых зьяўляюцца тысячы новых. Жартаўліва называем іх "жывое срэбра". Ад часаньня на скуры зьяўляюцца раны. А там, дзе падгрызаюць іх вошы, асабліва на плячах, шыі (там скура танейшая), утвараюцца струпы.

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 29—40.**

ЗНОЙДЗЕНА Ў ПРАЗЕ

# РУКАПІСНЫ СПІС СКАРЫНАЎСКАГА АПОСТАЛА

У мінулым, 1994 годзе, паступіў у фонды Славянскай бібліятэкі рэдкі рукапіс. Пакупка была зроблена праз пасрэдніцтва пражскага букіністычнага магазіна. Гэтая кніга -- рукапісны спіс Апостала, адрэдагаванага і надрукаванага ў 1525 годзе ў Вільнюсе Ф. Скарынай, які з'яўляецца аўтарам каментарыяў-прадмоў да асобных біблейскіх кніг Новага Запавету.

Як вядома, друкаваныя выданні Скарыны перапісваліся на працягу XVI і XVII стагоддзяў на землях Заходняй Украіны. Захавалася некалькі рукапісных копій скарынаўскага Апостала. Чатыры з іх захоўваюцца ў бібліятэках Украіны (у Львове, Харкаве, Кіеве), тры -- у Варшаўскай нацыянальнай бібліятэцы, куды яны паступілі з бібліятэкі Грэка-Каталіцкага капітула ў Пржэмышлі (адзін з іх датаваны 1619 годам, астатнія адносяцца да другой паловы XVI стагоддзя). У Расіі ёсць экземпляр Апостала, у якім адлюстроўваецца скарынаўская рэдакцыя, у Рускай Нацыянальнай бібліятэцы (былой Публічнай) у Санкт-Пецярбургу. У літаратуры прыводзіцца яшчэ спіс падобнага тлумачальнага Апостала з падложнай датай 1500-ты год са збору Сіліна (П.В. Уладзіміраў, Працы IX археалагічнага з'езда ў Вільні 1893, М. 1077, с. 323, 324). Уладзіміраў не дае шырокага вопісу, але прыводзіць даныя, што знаходзяцца на а. I і ў калафоне. Не ведаю, ці захаваўся экземпляр Сіліна да сённяшняга дня. У нашым экземпляры калафон ёсць -- таму мы выключылі магчымасць іх атаясамліваць.

## АПІСАННЕ

Рукапіс XVI стагоддзя фарматам 20x30 сантыметраў, напісана на грубай паперы (з філігранню "кабан"), кірылаўскім паўуставам, з невялікім нахілам улева, чорным і чырвоным чарнілам. Захавалася 259 аркушаў без абазначэння фаліяцыі і сшыткаў (далей прыводзім новую фаліяцыю 1-259). Экземпляр няпоўны. Ён моцна пашкоджаны, некаторыя аркушы абарваныя і падклееныя. Першы аркуш кнігі абрэзаны ўжо пасля другога перапляцення ў XVIII стагоддзі. Не хапае тэкста пачатку з Паслання св. Паўла Філіпійцам 3, 20 да Паслання Цімафею 1, 3 (паміж аркушамі 198 і 199).

У пачатку прадмовы Скарыны да Дзеянняў св. Апосталаў (а. I) і ў пачатку тэкста Дзеянняў ёсць чырвоныя плеценыя застаўкі, другая з іх і два плеценыя ініцыялы (таксама чырвоныя) нагадваюць аб стылі выданняў Швайполта Фіоля. У загалоўках выкарыстоўваецца вязь. У рукапісу выкарыстоўваюцца і характэрныя для Скарыны рысы фігурнага набору.

## ЗМЕСТ

Прадмова Скарыны да Дзеянняў святых Апосталаў (1а-3б). Дзеянні св. Апосталаў (4а-62а), прадмова (сказанне) да Паслання Іакава (63), Пасланне св. Іакава (64а-70а), прадмова да першага Паслання Пятра (70), Пасланне першае св. Пятра (70б), прадмова да другога Паслання св. Пятра (70а), Пасланне другое св. Пятра (788), прадмова да першага Паслання св. Іаана (82б), Пасланне першае св. Іаана (83), прадмова да другога Паслання Іаана (89а), Пасланне другое св. Іаана (89а), прадмова да трэцяга Паслання св. Іаана, Пасланне св. Іаана (90), прадмова да Паслання Іуды і тэкст гэтага Паслання (91б-93а). На адвароце аркуша 91: "Починают с тя (!) епистолы святого славного и верховного в небе наученаго Христова Павла" (новая арфаграфія, цітлы раскрытыя). Прадмова да Паслання да Рымлянаў (94а-96б), Пасланне да Рымлянаў (94а-121), прадмова да Першага паслання да Карынфянаў (122), Першае пасланне да Карынфянаў (123-149б), прадмова да Другога паслання да Карынфянаў (150а-152а), Другое пасланне да Карынфянаў (152б-170б). Прадмова да Паслання да Галатаў (171а-172б), Пасланне да Галатаў (173а-181а), прадмова да Паслання да Ефесянаў, Пасланне да Ефесянаў (183б-192), прадмова да Паслання да Філіпійцаў (192б-193б), Пасланне да Філіпійцаў (193б-198б). Наступныя аркушы гэтага і іншых Пасланняў св. Паўла страчаны аж да пачатку Другога паслання да Цімафея.

Ліст 199 пачынаецца з главы першай, сціх трэці: "...Споминание в молитвах моих, дн и нощ, жедаа видети тя...", ідзе прадмова да Паслання да Ціта (а. 204), Пасланне да Ціта (208а), прадмова да Паслання да Філімона (208), Пасланне да Філімона (208б-209б), прадмова да Паслання да Яўрэяў (210а-211а), Пасланне да Яўрэяў (211б-232а). На а. 232-а -- калафон (тэкст яко[illegible]ыводзім ніжэй). На а. 232[illegible]чынаецца Саборнік (каляндар з даведкамі аб чытаннях на асобныя святы...).

## НЕКАТОРЫЯ СПЕЦЫФІЧНЫЯ РЫСЫ РУКАПІСУ

Мы маем справу з копіяй, зробленай з друкаванай кнігі малога фармату 8°, якая была прызначана для індывідуальнага карыстання веруючымі. Копіі (не магу гаварыць аб усіх), з якімі я да гэтага часу пазнаёмілася, служылі богаслужэбным мэтам і належалі асобным прыходскім цэрквам, таму яны адрозніваюцца і па фармату (у ліст), і па арфаграфіі. Для іх характэрна імкненне да больш традыцыйнай, кансерватыўнай формы: некаторыя цітлы, раскрытыя Скарынай, зноў з'яўляюцца, больш надрадковых знакаў, ужываюцца зноў юсы замест "е", "у", ять, цвёрды знак замест "о", "е".

З імем і прозвішчам Скарыны мы сустракаемся ў пачатку аўтарскіх прадмоў да асобных тэкстаў біблейскіх кніг і ў канцы гэтых кніг. Яны адсутнічаюць у пасляслоўі пасля Паслання да Яўрэяў на а.232: "Доконана есть сия книга зовемая ап/о/с/то/ль, еже замыкает в собе найпервей деяниа ап/о/с/то/лскаа, потом посланиеи с/вя/тых ап/о/сто/ль соборных сем таж епистол с/в[illegible](о)го Павла 14". Гэта ўвесь тэкст калафона, наступнага скарынаўскага тэкста не хапае.

На аркушы 247 (Саборнік, канец календара): "соборник всих двоунадесят м/е/с/я//це/й собраным св/е/тым и празником, събранные еп/и/ст/о/лы и е/ван/г/е/лия доктором Францыском Скориною с **Полоцка** з божию помощию доконаный есть".

На а. 259: "Доконан есть съборникъ всем **с/вя/тымъ празником** през цалый год днемъ и празником зачала, епистолам и е/ван/г/е/лием. Събраны воедино место доктором Францыском Скориною из града Полоцька". Выдзеленыя словы адсутнічаюць у скарынаўскім арыгінале.

## ПАХОДЖАННЕ

Мяркуючы па аналогіях і па рукапісных упісках і макулатуры, знойдзенай у пераплёце кнігі, рукапіс звязаны з вобласцю Заходняй Украіны. Па вонкаваму абліччу (почырк, філігрань -- "кабан", грубая папера, спосаб выканання арнаменту заставак -- штрыхоўкай) і па зместу (прыводзіцца імя і прозвішча Ф. Скарыны) яна нагадвае рукапіс Апостала XVI стагоддзя варшаўскай Нацыянальнай бібліятэкі N 2769. Рукапісныя запісы ў нашым экземпляры (напісаныя скорапісам і лацінскім алфавітам па-польску і па латыні), сведчаць аб тым, што кнігай карысталіся ў вобласці Валыні. Запісы часткова сцёртыя. Самы стары запіс памечаны датай 1638: того року... мороз пашню по... голод..." (абарот апошняга 259-га аркуша). На тым жа лісце запіс алоўкам (19-га в. ?) тычыцца Валынскага павета.

## ПЕРАПЛЁТ, МАКУЛАТУРА ЎНУТРЫ ПЕРАПЛЁТУ

Кніга моцна пашкоджана. Верхняе вечка пераплёту абарванае, верхняя драўляная дошка разбіта яшчэ да папраўкі і паўторнага перапляцення (верагодней за ўсё, у другой палове XVIII стагоддзя). Скураныя вечкі выкананы ў стылі пераходу ад рэнесансу да барока, упрыгожаны разнымі рамкамі і простым цісненым арнаментам. Захаваліся фрагменты металічных засцежак. Кніга была пераплецена другі раз не раней, чым у другой палове XVIII стагоддзя, прычым верхнюю дошку папраўлі пры дапамозе вяроўкі і на ўнутраным баку абедзвюх дошак наклеілі макулатуру. Тады ж наклеілі на адваротныя бакі вечак пераплёта рэдкія ксілаграфіі, якія, можа быць, складалі і пярэдні, і задні фарзац. Фарзацы абарваны, ад кожнай з ксілагравюр засталася толькі палова. Разьба па дрэву -- лубкі, па ўсёй верагоднасці, XVIII стагоддзя. Першы з іх -- Хрыстос з цярновым вянцом, другі -- пелікан, што корміць сваіх дзяцей -- таксама сімвал Хрыста. Гэтыя матывы ўвайшлі ў карыстанне на Украіне з канца XVII стагоддзя. Абедзве гравюры расфарбаваны блакітнай, жоўтай, аранжавай і карычневай фарбамі.

Кніга паступіла ў рэстаўрацыйную майстэрню Нацыянальнай бібліятэкі ў Празе, дзе пераплёт разабралі. Унутры пераплёту былі выяўлены наступныя матэрыялы:

1. Дробныя, вельмі дэфектныя фрагменты рукапіснага Апостала XVI стагоддзя (тэкст Паслання Іакава, 2-я і 4-я главы), напісанага кірылаўскім паўуставам. Рука не супадае з нашым рукапісам, акрамя таго, у нашым рукапісе той жа тэкст, які адрозніваецца толькі правапісам некаторых літар.
2. Скарапісны фрагмент аўтографа ліста епіскапа Феадосія Лубянецкага (Рудніцкага, 1751), епіскапа Луцкага і Астрожскага, што тычыцца пакарання жонкі свяшчэнніка за правіннасць.
3. Польскі рукапіс XVIII стагоддзя, што адносіцца да літургічнай практыкі уніятаў.
4. Фрагменты польскага друкаванага календара, якія змяшчаюць агляд кірмашоў у Польшчы, з датай 1739 года.

Усё гэта сведчыць аб тым, што даны экземпляр меў хаджэнне ў Заходняй Украіне, а менавіта на Валыні.

**Францішка СОКАЛАВА.**

ШТО МЫ СТРАЦІЛІ

# АБ ЛЁСЕ КАШТОЎНАСЦЯЎ ГОМЕЛЬСКАГА ПАЛАЦА

I

Сёння пойдзе гутарка аб стратах каштоўнасцяў, сабраных у Гомельскім палацы, які першапачаткова належаў графам Румянцавым, а пазней князям Паскевічам. Як вядома з гістарычных крыніц, пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе (а яна была федэральнай дзяржавай; у яе склад уваходзілі дзве незалежныя краіны: "Карона" і Вялікае Княства Літоўскае; "Карона" ўключала этнічна-польскія і часткова этнічна-ўкраінскія землі; ВКЛ ахоплівала этнічна-беларускія і этнічна-летувіскія землі), усходняя частка беларускіх зямель адышла да Расійскай імперыі. Імператрыца Кацярына II пачала раздаваць беларускія гарады, мястэчкі і вёскі рускім военачальнікам і сваім прыдворным. Так і мястэчка Гомель у 1776 годзе Кацярына II передала графу і адначасова генерал-фельдмаршалу Расіі Пятру Румянцаву-Задунайскаму. Ён і збудаваў на працягу 1785--1793 гадоў Гомельскі палац на месцы драўлянага замка XVI стагоддзя князёў Чартарыйскіх. Замак месціўся на старажытных абарончых умацаваннях Гомеля XII стаго[illegible], што ўзвышаліся над высо[illegible]ерагам ракі Сож.

Пас[illegible] смерці фельдмаршала Гомельскі палац належаў яго сынам з 1796 па 1834 год. Адзін з іх, менавіта граф Мікалай Пятровіч[illegible]янцаў, сабраў у палацы ў[illegible]ы музей, бібліятэку і каштоўны збор старажытных архіўных дакументаў Беларусі (маюцца на ўвазе старажытныя акты, граматы і прывілеі каралеўскія і велікакняжацкія).

І хоць да 1814 года Мікалай Румянцаў часцей жыў у Пецярбургу і за межамі Расіі, таму што ён быў вядомым дыпламатам і дзяржаўным дзеячам, нават канцлерам Расіі, ён рана пачаў цікавіцца гісторыяй Беларусі і яе культурай.

Пасля выхаду ў адстаўку ў 1814 годзе ён пасяліўся ў Гомельскім палацы і больш актыўна пачаў займацца мецэнацкай дзейнасцю. Гэтаму спрыяў і "Румянцаўскі гурток", які ён стварыў у Пецярбургу ў 1810 годзе з гісторыкаў і археографаў, куды ўвайшлі і такія беларускія вучоныя, як Грыгаровіч і Калайдовіч. Яны даследавалі старажытныя беларускамоўныя пісьмовыя крыніцы і на іх падставе вывучалі беларускую мову. У гэты час Румянцаў нават сам удзельнічаў у экспедыцыях Калайдовіча і Строева па Беларусі. Такім чынам, Мікалай Румянцаў стаў можа і незнарок мецэнатам не толькі рускай, але і беларускай культуры. Увогуле ён фінансаваў навуковыя доследы і іншых славянскіх культур. Менавіта на яго грошы Грыгаровіч сабраў на Магілёўшчыне і Мсціслаўшчыне старажытныя беларускія акты і выдаў частку з іх (55 дакументаў) у 1824 годзе ў Маскве на рускай мове пад назвай "Белорусский архив древних грамот", а таксама склаў і падрыхтаваў да друку "Слоўнік заходнерускай гаворкі".

Калайдовіч жа змог на яго сродкі правесці першае навуковае апісанне беларускай мовы і таксама скласці кароткі слоўнік беларускай мовы. Сярод каштоўных археаграфічных дакументаў па гісторыі Беларусі, набытых Румянцавым, быў і помнік беларуска-літоўскага летапісання "Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага". Яе адшукалі ў спісе гістарычнага зборніка 2-й паловы XVII стагоддзя, які зараз знаходзіцца ў Маскве (у Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы).

Акрамя старажытных актаў і рукапісаў, Мікалай Румянцаў сабраў значны музейны збор, у тым ліку нумізматычную калекцыю з манет XVI--XIX стагоддзяў, творы жывапісу і дэкаратыўна-прыкладного мастацтва, скульптурныя мармуровыя партрэты і кампазіцыі сусветна вядомых скульптараў; археалагічную і этнаграфічную калекцыі, набытыя ім у беларускіх гарадах, мястэчках і вёсках. Сярод твораў жывапісу варта прыгадаць карціну мастака Тарычэлі (1773 год) "Урачыстае шэсце Кацярыны II у Крым", партрэт самога М.Румянцава пэндзля мастака Даў, а таксама шэраг партрэтаў яго сям'і; творы дэкаратыўна-прыкладного мастацтва, з якіх 627 і цяпер захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі Расіі. Сярод скульптур вылучаецца кампазіцыя "Сусвет" Кановы, скульптурныя партрэты яго бацькі (Румянцава-Задунайскага), бюст самога графа М.Румянцава і інш.

Праз два гады пасля смерці Мікалая Румянцава, у 1826 годзе, сабраныя ім для Гомельскага палаца зборы (музей, бібліятэчныя і археаграфічныя) перавезлі ў 1828 годзе ў Пецярбург, дзе ў 1831 годзе адкрылі Румянцаўскі музей. Праз 30 год, г.зн. у 1861 годзе, Румянцаўскі музей разам з бібліятэкай і археаграфічным зборам перавезлі ў Маскву, у так званы Дом Пашкова, у якім размясцілі Румянцаўскі музей.

Пазней гомельскія зборы Мікалая Румянцава трапілі ў сучасны Расійскі дзяржаўны гістарычны музей, а яго бібліятэка і археаграфічны збор сталі асновай Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі (апошняя і цяпер знаходзіцца ў былым Доме Пашкова). Беларуская этнаграфічная калекцыя Румянцава трапіла ў былы музей этнаграфіі народаў СССР, які знаходзіцца цяпер у Санкт-Пецярбургу.

Аб каштоўнасцях Гомельскага палаца, сабраных Паскевічамі, чытайце ў наступным артыкуле.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

# ПЕРАКЛАДАЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Дзякуючы Яраславу Гулаку чэшскія чытачы змаглі пазнаёміцца са шмат якімі творамі Васіля Быкава. Ён пераклаў аповесці "Мёртвым не баліць" (1957), "Праклятая вышыня" (1970), "Абеліск" і "Сотнікаў" (1974), "Дажыць да світання" (1976) і іншыя. У зборніку ж "Абеліск" (1979) у перакладзе Я.Гулака была змешчана аповесць "Круглянскі мост". Па-чэшску Я.Гулакам платформа пераўвасоблены і іншыя творы быларускіх пісьменнікаў. У прыватнасці, яшчэ ў 1959 годзе ў Чэхаславакіі выйшаў раман І.Мележа "Мінскі напрамак". Як правіла, Я.Гулак сам піша прадмовы альбо пасляслоўі да перакладзеных ім твораў. Выступае таксама з літаратурна-крытычнымі артыкуламі, у якіх аналізуе творчасць як беларускіх пісьменнікаў, так і прадстаўнікоў іншых літаратур.



Даўняя дружба звязвае віцяблян і жыхароў нямецкага горада Франкфурт-на-Одэры. Нядаўна нямецкія сябры пабывалі ў Віцебску. Члены афіцыйнай дэлегацыі на чале з обербургамістрам Вольфгангам Полем правялі перагаворы аб умацаванні сяброўскіх сувязей паміж двума гарадамі, азнаёміліся з гістарычнымі месцамі Віцебска.

Акцёр з Франкфурта-на-Одэры Маціс Фрыдрых паказаў віцяблянам спектакль "Гісторыя маленькага чалавека ў жываце".

НА ЗДЫМКУ: нямецкія сябры каля помніка Марку Шагалу ў Віцебску.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

*З ЧАСОЎ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА*

# ФЕЛІКС КЛЮКОЎСКІ – САМАЯ ЦУДОЎНАЯ І ЧЫСТАЯ ПОСТАЦЬ ПАЎСТАННЯ

Ва ўспамінах літаратара-эмігранта, удзельніка вызваленчага руху В.Кошчыца пра паўстанне 1863 года на Міншчыне, надрукаваных яшчэ ў мінулым стагоддзі ў Кракаве (1875), ёсць цікавыя радкі, прысвечаныя студэнту Феліксу Клюкоўскаму, які напярэдадні паўстання "пусціўся пешкі ў народ па Случчыне і Піншчыне". Цытуем далей: "Адважны, кемлівы, ён дасканала валодаў народнай мовай і ценем выслізгваў ад рускай паліцыі, спыняючыся ў корчмах або сялянскіх хатах, дзе смела сеяў патрыятычную прапаганду, не баючыся здрады з боку сялян, якіх баламуцілі папы і чыноўнікі. Гэты чалавек належыць да самых цудоўных і чыстых постацяў апошняга паўстання; калі б такіх хаця б па адным было на кожны павет, замест паражэнняў, нас сустракалі б трыумфы". Вось так узнёсла і горача характарызуе Клюкоўскага мемуарыст. Несумненна, перад намі чалавек, нечым падобны на Каліноўскага, мабыць, шмат у чым яго аднадумец. Як і Каліноўскі, ён гаварыў на адной мове з народам і ўжо праз гэта далучаецца да тагачаснага нацыянальнага адраджэння.

Ці ж справядліва, што мы амаль нічога пра яго не ведаем? Доўгі час я прыглядаўся да гэтай постаці, збіраў матэрыялы ў віленскіх, мінскіх, маскоўскіх архівах, у багатай літаратуры па гісторыі паўстання. Асобныя рыскі-дэталі паступова набывалі канкрэтнасць, складваліся ў пэўную карціну.

Гісторыю шляхецкага роду Клюкоўскіх расказвае радаводная "фамільная" справа, якая захоўваецца ў мінскім гістарычным архіве на вуліцы Казлова. Род паходзіў з Гродзеншчыны. У канцы XVIII стагоддзя нейкая галіна Клюкоўскіх атаўбавалася ў Мінскім павеце, дзе набыла маёнтак Калюжэўшчыну (у Ракаўскай парафіі). У першай палове XIX стагоддзя маёнткам валодалі браты Фабіян, Дамінік і Алоіз Клюкоўскія. Тром гаспадарам у невялікім маёнтку было зацесна, дык Фабіян адпраўляецца ў шырокі свет, нейкі час арандаваў фальварак Раготынкі на Слонімшчыне, а ўрэшце пасяляецца ў маёнтку Шчарбінава ў Наваградскім павеце (цяпер Ляхавіцкі раён). "...Мясцовасць лясістая і ўзгорыстая, над навакольнымі балотамі", -- паведамляе стары даведнік. Словам, тыповая цэнтральная Беларусь. Відаць, Фабіян быў там арандатарам ці якім службоў[illegible] Жонка Канстанцыя паходз[illegible] роду Багушэвічаў (ці няма тут нейкага далёкага сваяцтва з нашым класікам?). Сям'я хутка расла. Усяго ў Фабіяна і Канстанцыі было ажно сем с[illegible] -- старэйшы нарадзіўся ў [illegible] годзе, малодшы -- у 1848-м. Сярэднія сыны -- Канстанцін-Фаўсцін (1839 года нараджэння), Фелікс-Людвік (1841) і Лаўрын-Фабіян (1843) належалі да пакалення Кастуся Каліноўскага, былі актыўнымі ўдзельнікамі паўстання 1863 года.

Метрыкі асноўнага нашага героя Фелікса-Людвіка ў радаводнай справе, на жаль, няма: яна была далучана да справы ў 1850 годзе, але потым забрана бацькам назад для сямейных патрэбаў. Аднак у прашэнні 1850 года аб далучэнні чатырох малодшых сыноў да шляхецкага роду бацька называе даты іх з'яўлення на свет. Дык датай нараджэння Фелікса трэба лічыць указанае бацькам чысло -- 22 мая 1841 года. Называецца ў радаводнай справе і іншая дата -- 25 мая, але гэта, мабыць, ужо дата хросту. Месцам нараджэння будзем лічыць Шчарбінава.

Як відаць з дакументаў радаводнай справы, на пачатку 50-х гадоў бацька збіраўся аддаць Фелікса і Лаўрына ў "ваенна-навучальную ўстанову", у які кадэцкі корпус. Хутчэй за ўсё гэты намер не здзейсніўся, бо напярэдадні паўстання Фелікс і Лаўрын былі студэнтамі Кіеўскага універсітэта.

Час клікаў на змаганне, з самых спакойных і памяркоўных рабіў дзёрзкіх барацьбітоў. Браты-студэнты, асабліва Фелікс, актыўна ўдзельнічалі ў кіеўскім падполлі. Ужо згаданы В.Кошчыц паведамляе ў сваіх успамінах, што ў Мінск у лістападзе 1862 года прыбылі тры эмісары кіеўскай рэвалюцыйнай арганізацыі -- Фелікс Клюкоўскі, яго універсітэцкі калега О., а таксама W., земляўласнік і былы кавалерыйскі афіцэр. Хто хаваецца за гэтымі таямнічымі ініцыяламі, сёння цяжка адгадаць. "О. -- паводле мемуарыста -- ехаў для ўзгаднення дзеянняў з рускімі рэвалюцыянерамі ў Пецярбургу і Маскве". Клюкоўскі і W. павінны былі дзейнічаць на Міншчыне. Мацаваць арганізацыю, рыхтаваць кадры барацьбітоў. Дадаткова Клюкоўскі меў даручэнне ад "літоўскага зямляцтва" Кіеўскага універсітэта збіраць успамогу для незабяспечаных калег. Абмяркоўваліся планы будучага паўстання на вясну 1863 года. Згодна з гэтымі планамі (пакуль яшчэ далёкімі ад жыцця марамі-наметкамі), паўстанцы Беларусі і Украіны павінны былі аб'яднацца паміж Мазыром і Радамышлем. Клюкоўскі, паводле Кошчыца, адзін з самых высокіх прадстаўнікоў падпольнай арганізацыі, "сапраўдны апостал рэвалюцыі", патрабаваў актыўных дзеянняў, але мінчане не былі яшчэ да іх гатовыя. Вось тады Клюкоўскі і выправіўся ў свае агітацыйныя падарожжы па Случчыне і Піншчыне.

Але не парываў ён сувязяў і са сваёй альма-матэр. Як паказваюць матэрыялы зборніка дакументаў "Общественно-политическое движение на Украине в 1863--1864 гг." (Киев, 1964), на пачатку лютага 1863 года ў Кіеве ў двух дамах па вуліцах Кузнечнай і Уладзімірскай паліцыя знайшла зброю, адмысловы літаграфскі станок і ўжо надрукаваных на ім некалькі дзесяткаў экземпляраў інструкцыі рэвалюцыйнага камітэта мясцовым паўстанцкім кіраўнікам. Паліцыя аб'явіла вышук некалькім студэнтам, якія пражывалі ў гэтых дамах і падчас вобыску ўцяклі. У іх ліку -- Фелікс Клюкоўскі. Укладальнікі зборніка паведамляюць: "Падчас паліцэйскага вобыску В.Вышынскаму ўдалося збегчы ў г. Бабруйск, Ф.Клюкоўскаму -- у Наваградак, а І.Бараноўскаму -- у Канстанцінопаль. Улетку таго ж года першыя двое былі схоплены і дастаўлены ў Кіеў, а ў лістападзе разам з астатнімі арыштаванымі студэнтамі выпушчаны з турмы з устанаўленнем строгага паліцэйскага нагляду". Што да Вышынскага і Бараноўскага -- меркаваць не бяруся, але прынамсі адносна Клюкоўскага гэтыя звесткі абсалютна памылковыя, ягоны лёс быў зусім іншы.

Як жа было ў сапраўднасці? Просьбы кіеўскіх уладаў аб арыштаванні Клюкоўскага і яго таварышаў накіроўваюцца ў Варшаву, Вільню, Пецярбург.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**(Заканчэнне будзе).**

**НА ВАШУ КНІЖНУЮ ПАЛІЦУ**

# ТРЫВОГА ЗБАЛЕЛАЙ ДУШЫ

Мікола Купрэеў новую сваю кнігу ("Мастацкая літаратура", Мінск, 1995) назваў так -- "Правінцыйныя фантазіі". У сапраўднага паэта няма правінцыі. У кожнага творцы -- свая сталіца. Мяркую, што за назваю (а ў кнізе ёсць і аднайменны верш) схавана памкненне паэта не абвастраць рашучае ўласнае жаданне біць у званы, трывожыць чытача. Пра балюча-пякучую рэчаіснасць аўтар хоча сказаць праўду, што і ўдаецца Міколу Купрэеву. Але робіць гэта паэт зусім не правінцыйна, хіба што толькі павясковаму чэсна, сумленна, паправінцыйнаму адкрыта, прама.

Аўтар "Правінцыйных фантазій" рэдка выходзіць на дыялог з чытачом, хаця ў літаратуры, у паэзіі працуе даўно і апантана. Кожны радок, які выходзіць з-пад пяра знешне не сталічнага паэта, -- прафесійная шчырасць, бясконцая шчырасць творцы. Стомлены, як бывае стомленай душа ад болю, паэт пераказвае перажытае. І робіць гэта па самаму вялікаму рахунку праўды. Таму, пэўна, шмат у кнізе прысутнічае суму, збалеласці. І як жа не быць усяму гэтаму, калі

**Абкарналі цябе, знявечылі,**
**Вотчына мая горкая...**
**Белая птушка**
**Над тарфянікамі, пагоркамі**
**Махае крыламі нявечнымі.**

*("Белая птушка").*

Спакутаваная Беларусь, як нідзе, відаць усё ж такі там, дзе жыве і працуе Мікола Купрэеў, у правінцыі. Што ў сталіцы адміністрацыйнай -- напоўненае газамі паветра, маючае, часам здаецца, выр[illegible]ы чорны колер... А на вё[illegible]а ў палескай прасторы, а [illegible] над рэчкамі, меншыя з каторых ужо і пасля сканчэння меліярацыйнага буму працягваюць гібець і выміраць, -- там жа не толькі паветра (тут я[illegible]акраз чысцейшае) з'яўляец[illegible]раявай трагедыі ўсебеларус[illegible]. Там, на вёсцы, відаць, усё адкрыта вачам і розуму як найяскравей. Навідавоку -- гібель прыроды, а значыць і гібель душы чалавечай.

Канешне ж, кніга Міколы Купрэева зусім не пра тое, што можна вымераць адным словам -- экалогія. Але і пра гэта таксама. "Правінцыйныя фантазіі" -- вынік, плён разваг пра згубу жыцця, пра тое, што ж робіцца-дзеецца на белым свеце. І нават на пачатку кнігі многія вершы носяць публіцыстычны характар. Але гэта, калі мець на ўвазе ступень завостранасці тэмы, а не адступленне паэта ад патрабаванняў мастацкага кшталту.

**Настаўнік роднай мовы**
**Грынчык**
**і дарожны майстар**
**дзед Антончык,**
**скажыце:**
**"Калі касілі вы атаву**
**ля шашы Масква-Варшава,**
**тут аб косці вашы**
**косы не звінелі!**
**Тут у травах ногі не блукалі!**
**І рукі тут да Бога**
**не крычалі!.."**
**Цяжка Каліноўскаму без іх.**

**Не завіце на вячэру**
**госця з Вільні.**
**Ён даўно не есць, не п'е.**
**Дайце толькі адпачыць з**
**далёкае дарогі**
**у мілавідскіх травах.**
**А вы касіце.**

*("Чэрап Каліноўскага").*

Перажываючы, здавалася б, не надта сімпатычна ўсеагульна, Мікола Купрэеў не крывіць душою і тут. Публіцыстычнасць ("Мой конь заблудзіўся ў Саюзе") не пераўтвараецца ва ўра-рытарычную беларускасць. Паэт, засведчыўшы балючы стан уласнай душы, скіроўвае ў пошук беларускасці, імкнецца разгледзець у бязмежным сусвеце мінуўшчыны кропкі беларускага духу, матэрыялізаваныя кропкі нацыянальнай свядомасці.

Няма ні патрэбы, ні сэнсу вызначаць тэматычны характар кнігі "Правінцыйныя фантазіі". Мікола Купрэеў піша пра Беларусь і беларускую душу, якім бы зместам ні напаўняў паэт той ці іншы верш. У кожным творы існуе два зместы: вонкавая ілюстрацыя да думак і глыбокага сэнсу падтэкст, які заўжды так ці інакш уводзіць у беларускі свет. І таму, пэўна, яднаюцца разам і экалагічная трывога, і душэўныя пакуты, звязаныя са стратай беларускасці.

Так, у вершах Міколы Купрэева -- лёс Беларусі, лёс беларускага народа, лёс сучасніка ў судакрананні з неабсяжным часам.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**




**Свой хатні музей "Успаміны бацькаўшчыны" адкрыў жыхар вёскі Стойлы Пружаскага раёна Мікалай Тарасюк. У яго калекцыі больш за тысячу самабытных, незвычайных работ. Яны ўзнаўляюць сюжэты гісторыі, вясковага жыцця і быту. Стварае іх Мікалай Васільевіч, скарыстоўваючы дрэва, саломку, чарот і іншыя матэрыялы.**

**НА ЗДЫМКУ: М.ТАРАСЮК з адной са сваіх работ.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

## СТАРОНКІ З "ВІЦЕБСКАГА АЛЬБОМА"

"Варта палюбавацца відамі нашага горада", -- раіў на пачатку XX стагоддзя вядомы віцебскі краязнаўца Аляксей Сапуноў. І працягваў далей: "Дзеля гэтага лепш за ўсё стаць на Лысай гары -- і вам адкрыецца цудоўная панарама. Пагледзіце прама: там, унізе, ля вашых ног, плаўна бруіцца Дзвіна, а за ёю шырока раскінулася на раўніне Задзвінне з яго пяццю храмамі. На ўскраіне яго груваcціцца вялізны будынак вакзала, на поўнач ад якога праглядаюцца высокія вежы касцёла Св.Барбары, а там, далёка за вакзалам, узвышаюцца горы "Сасонніка" (Юр'евай горкі)".

Сённяшні гарадскі краявід Задзвіння краязнаўца, мусіць, пазнаў бы з цяжкасцю. Бясследна зніклі вежы ды купалкі пяці храмаў, падчас 2-й сусветнай вайны да падмуркаў быў спляжаны стары будынак вакзала, а "высокія вежы касцёла Св.Барбары" цалкам згубіліся зараз сярод комінаў ды прамавугольных "каробак" несумаштабнай даўніне індустрыяльнай забудовы.

І ўсё ж віцебскія краявіды адметныя: колькі ў іх шырыні і прастору! Асаблівую прывабнасць гораду надае рэльеф. Праз маляўнічае рэчышча Дзвіны перагукаюцца паміж сабой пляскатая даліна левабярэжжа і рознавысокія пагоркі ды яры правабярэжнай часткі. Менавіта дзякуючы рэльефу ў чэрвені 1898 года Віцебск прыдбаў гонар зрабіцца першым у Беларусі і трэцім у Расійскай імперыі (пасля Кіева і Ніжняга Ноўгарада) горадам, дзе быў пушчаны электрычны трамвай: жывыя "конскія сілы" былі не ў стане ўсцягваць на гарадскія ўзгоркі вагоны з пасажырамі.

Сёння на Лысай, або Прачысценскай, гары ў Віцебску стаіць крыж Св.Ефрасінні Полацкай, які быў пастаўлены прадстаўнікамі праваслаўнай царквы ў год святкавання 1000-гадовага юбілею хрышчэння Беларусі. У 1623 годзе на гэтым месцы быў забіты уніяцкі архіепіскап Язафат Кунцэвіч. Пазней "на гары Святое Прачыстае" манахі-базыльяне ўзвялі мураваны храм у гонар Успення Багародзіцы і Св.Пакутніка Язафата, які быў знішчаны бальшавікамі ў 1937 годзе. Цяпер штогод 12 лістапада, у дзень забойства Кунцэвіча, сюды прыязджае уніяцкі святар і правіць урачыстае набажэнства. Як і ў далёкім сярэднявеччы, на адным кавалку гарадское прасторы зноў сышліся прадстаўнікі розных канфесій, галоўнай задачай якіх сёння павінны стаць супольныя намаганні па адраджэнню духоўнай культуры беларускага народа. І няхай ім дапаможа ў гэтым святая апякунка і асветніца Беларусі, маці нашая Ефрасіння, чый крыж узносіцца сёння над сівымі хвалямі Дзвіны ў самым сэрцы старажытнага Віцебска.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**





**НА ЗДЫМКАХ: крыж Св.Ефрасінні Полацкай на Прачысценскай гары; панарама Віцебска з Прачысценскай гары.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ТРЫВОГА ЗБАЛЕЛАЙ ДУШЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Як у баладзе "А ў полі вярба", як у вершы "Сухары Рыгора Барадуліна", як у многіх іншых творах.

Літаральна праз усю кнігу праходзіць чысты вобраз белага бусла.

**...Схавацца! Бразнуць**
**зашчапкай!**
**Нахіліцца цяжка**
**над сталом...**
**Б'е трывожна ў**
**вокны Вашчанка**
**Палескага бусла крылом.**

**Няўжо стануць**
**чорнай казкаю**
**Нашы беларускія буслы!**
**Сустракаем**
**Прыпяцкім заказнікам**
**Не буслоў -- цяпер**
**яны паслы...**

*("Дыпціх").*

Бусел -- і ў вершах "Белая птушка", "У вянок Міхасю Рудкоўскаму". Паэт жыццесцвярджальным вобразам беларускай птушкі пакрысе змякчае боль, пакуты, што жывуць у кожным творы, дае падставы на нейкую надзею. Магчыма, і выратуемся, выжывем... Павінна ж быць хаця б некаторае спадзяванне. І не трэба, каб вызначалася яно ўра-радасцю, падманлівым шчасцем. Няхай сабе толькі крышачку светласці, спадзявання на ўласны паратунак. І зусім не падманлівага спадзявання, а светлай веры, заснаванай на жаданні адкрыць духоўнасць у саміх сабе, вярнуць усенародную прагу да чысціні.

Асобнае месца ў кнізе "Правінцыйныя фантазіі" займае паэма "З сястрой і Уладзімірам Караткевічам на Рагачоўшчыне". Паэт, спалучыўшы свой ідэйны пошук з мастацкімі выпрабаваннямі формы, выбудоўвае, выладжвае жыццепартрэт Беларусі. І ёсць у паэме такія выразна-адказныя словы:

**Да нейкіх, нейкіх там гадоў**
**Мы ні ў чым не вінаваты --**
**Між лясоў, палёў, садоў**
**І на плошчах гарадоў**
**Мы проста хлопцы**
**і дзяўчаты.**

**Але пазней, але пазней,**
**Калі выйдзем з**
**родных хатаў,**
**За ўсё ў табе, за ўсё ўва мне,**
**За ўсё, што ў небе і на дне,**
**У блізкай і далёкай старане,**
**Што можа быць**
**людзьмі праклята,**
**Маўчаннем дрэў**
**і крыллем птушанятаў,**
**Я і ўсе мы тройчы вінаваты.**

Паэт усё сказаў. Пачуць яго словы -- ужо наша задача, наш чытацкі клопат.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## СПОРТ

ГАНДБОЛ. Дзве сустрэчы ў барацьбе за Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў правялі мінскія армейцы з фінскім клубам БК-46. Дома нашы землякі перамаглі з лікам 34:24. І ў гасцях фіны таксама прайгралі -- 22:27. Мінчане выйшлі ў наступны круг спаборніцтваў.

БАСКЕТБОЛ. Стартавала чарговае першынство Еўропы. У Афінах беларускія баскетбалісты сустракаліся з адной з мацнейшых каманд свету -- грэкамі і перамаглі.

СІЛАВЫ СПОРТ. Дзе б ні выступаў майстар спорту міжнароднага класа Вячаслаў Хараненка, ад яго заўжды чакаюць рэкордаў. Вось і нядаўна ў Мінску наш зямляк, седзячы ў шпагаце, змог выжаць "двухпудовік" 61 раз. Гэты вынік -- новае сусветнае дасягненне.

ШАШКІ. У фінальным матчы першынства свету мінчанін А. Балякін выйграе з лікам 6:4 у расіяніна А..Шварцмана.

На чэмпіянаце свету ў Расіі беларускія шашысты А.Васюк і В.Габрыэлян занялі адпаведна 8-е і 9-е месцы.

## У НЕБЕ — ПАВЕТРАНЫ ЗМЕЙ

У многіх вядомых авіятараў любоў да неба пачыналася з запуску паветранага змея. Нядаўна ў Брэсце прайшлі такія спаборніцтвы. У іх удзельнічалі дзеці з гурткоў тэхнічнай творчасці 26 школ горада. Было запушчана больш за сто паветраных змеяў самых розных канструкцый. Сотні брэстаўчан назіралі гэтае прыгожае відовішча.

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**





Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак.5367. Падпісана да друку 23.10.1995 г.